Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 730.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 8549

# НАВІНЫ



Аўторак, 14 ліпеня 1998 г. № 74 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### *Выезд*

Сёння прэзідэнт Лукашэнка едзе ў Гомельскую вобласць. 14 ліпеня ён наведае Хойніцкі, Нараўлянскі і Петрыкаўскі раёны. 15 ліпеня прэзідэнт будзе ў Гомелі, наведае шэраг прадпрыемстваў і правядзе нараду з кіраўнікамі вобласці і раёнаў, што пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы.

### *Адпачынак*

Як паведаміла ўрадавая прэс-служба, з 13 ліпеня прэм'ер-міністр Сяргей Лінг пайшоў у кароткатэрміновы адпачынак, які правядзе ў Беларусі.

### *Заробкі*

Працягвае расці запазычанасць па зарплаце: калі ў маі яна складала 832,5 млрд. рублёў, то на пачатак ліпеня — ужо 1 трыльён 352 мільярды. Як і раней, асноўная частка запазычанасці прыпадае на калгасы і саўгасы: у сельскай гаспадарцы работнікі недаатрымалі трыльён рублёў.

## Забойцаў Мікалуцкага знайшлі?

**Напрыканцы мінулага тыдня беларускія сілавыя міністры давалі Лукашэнку справаздачу па праблеме барацьбы са злачыннасцю і карупцыяй.**

Гаворка на прэзідэнцкай нарадзе ў асноўным ішла аб сямі найбольш гучных крымінальных справах, якія Лукашэнка ўзяў «пад асабісты кантроль». Лукашэнка задаволены ходам расследавання мінулагодняга забойства свайго сябра і старшыні дзяржкантролю ў Магілёўскай вобласці Яўгена Мікалуцкага, а таксама «справы карупцыянераў» Васіля Лявонава і Васіля Старавойтава. Па словах генпракурора Алега Бажэлкі, следства ў асноўным завершанае, злачынцаў знайшлі, і справа хутка будзе перададзеная ў суд.

Імёны і прозвішчы падазраваемых пакуль застаюцца ў сакрэце, але вядома, што ў гэтай справе шмат супярэчнасцяў. Пасля забойства Мікалуцкага ў Магілёве спачатку была арыштаваная кіраўніца мясцовага аддзялення Беларусбанка Я.Шасцерыкова (следства падазравала яе ў арганізацыі тэракта). Потым з гэтым забойствам пачалі звязваць імёны Лявонава і Старавойтава, а таксама аднаго з кіраўнікоў федэрацыі кікбоксінга. І, нарэшце, у студзені гэтага года была арыштаваная цэлая група асобаў, якія нібыта таксама ўдзельнічалі ў забойстве Мікалуцкага. Хто з гэтых людзей стане перад судом і наколькі суд будзе аб'ектыўным, — сказаць цяжка, бо яшчэ на пахаванні Мікалуцкага Лукашэнка папярэдзіў, што следства не будзе абцяжарваць сябе пошукам доказаў.

Закончылі следства і па справе экс-міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава і старшыні калгаса «Рассвет» Васіля Старавойтава, якія ўжо 8 месяцаў знаходзяцца ў турме па абвінавачванні ў крадзяжы дзяржаўнай маёмасці. Па словах Бажэлкі, Лявонаў і Старавойтаў цяпер знаёмяцца з матэрыяламі справы, неўзабаве будзе суд.

Работай следчых, якія вядуць гэтыя справы, Лукашэнка застаўся задаволены і нават выказаў ім асабістую падзяку. А вось міністру ўнутраных справаў Валянціну Агальцу і старшыні КДБ Уладзіміру Мацкевічу пашанцавала меней. Лукашэнка абвінавачваў Агальца ў тым, што яго падначаленыя часта дыскрэдытуюць прэзідэнта ў вачах народа. Рыгоравіч абураўся: *«Мне дакладаюць аб тым, што калі праводзіцца нейкая дохлая, гадкая аперацыя тыпу барацьбы з самагонаварэннем, міліцыя акружае вёску і заяўляе бабкам, што так загадаў прэзідэнт»*. З такімі паводзінамі міліцыі прэзідэнт паабяцаў весці бескампрамісную барацьбу.

Паказальна, што Лукашэнка запатрабаваў ад старшыні КДБ Мацкевіча спыніць высвятленне адносінаў з МУС, якое з дамесці больш «крутое і элітарнае», а наладзіць каардынацыю паміж дзвюма сілавымі структурамі. Лукашэнка паведаміў сілавікам, што будзе і надалей кантраляваць іхнюю дзейнасць. Відаць, дзеля таго, каб тыя канчаткова не пасварыліся паміж сабою.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Ахвяра скандалу ў Кран-Мантана

**Пасол Беларусі ў Швейцарыі Станіслаў Агурцоў адпраўлены ў адстаўку.**

Афіцыйная фармулёўка прэзідэнцкага ўказа — *«у сувязі з пераводам на іншую працу»*. Аднак, на думку назіральнікаў (і гэтую інфармацыю неафіцыйна пацвердзілі ў міністэрстве замежных справаў), прэзідэнт Лукашэнка пакараў пасла за «зрыў візіту» беларускай дэлегацыі на міжнародны эканамічны форум у Кран-Мантана.

Цяпер С.Агурцову давядзецца пакінуць Швейцарыю: ён быў першым беларускім паслом у гэтай краіне, непасрэдна займаўся пакупкай зямельнага ўчастка ў прыгарадзе Берна, дзе сёння знаходзіцца нашае дыпламатычнае прадстаўніцтва, арганізоўваў працу амбасады. С.Агурцоў выконваў таксама абавязкі пастаяннага прадстаўніка Беларусі пры міжнародных арганізацыях у Жэневе.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

### *У «чорным спісе» — 131 чыноўнік*

# Сядзі ў Драздах!

**Краіны Еўрапейскага Саюза (15 дзяржаваў) прынялі рашэнне не выдаваць візы беларускім чыноўнікам. У «чорным спісе» першым стаіць прэзідэнт Лукашэнка, а следам за ім яшчэ 130 персонаў.**

У пятніцу, 10 ліпеня, часова паверанныя ў справах Германіі, Францыі, Вялікабрытаніі, Італіі і Грэцыі зрабілі дэмарш міністэрству замежных справаў. Яны запатрабавалі ад беларускіх уладаў стварыць нармальныя ўмовы для прабывання пасloў у рэзідэнцыях у Драздах. Дыпламаты перадалі кіраўніку беларускага знешнепалітычнага ведамства Івану Антановічу спіс дзяржаўных служачых, якім не будуць выдавацца ўязныя візы ў краіны Еўрасаюза. Пад санкцыі трапіла ўся беларуская «вярхушка» на чале з Лукашэнкам. У прыватнасці, краіны ЕС не пусцяць на сваю тэрыторыю кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаіла Мясніковіча, дзяржсакратара Савета бяспекі Віктара Шэймана, «заўхоза» Івана Ціцянкова, віцэ-прэм'ера Уладзіміра Замяталіна, шэфа дэпартамента па гуманітарнай дапамозе Віктара Кучынскага, памочніка прэзідэнта Урала Латыпава і многіх іншых. Без візы таксама засталіся ўсе члены беларускага ўрада разам з прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам. Асабліва падабалася падарожнічаць па заходніх краінах міністру Івану Антановічу і ягоным намеснікам, якія апантана прабівалі ізаляцыю рэжыму. Цяпер вароты на Захад для кіраўнікоў знешнепалітычнага ведамства таксама зачыніліся.

Дзяржаўныя служачыя нервуюцца і выказваюць абурэнне санкцыямі Еўрасаюза. У інтэрв'ю Інтэрфаксу шэф прэзідэнцкай адміністрацыі М.Мясніковіч прызнаўся, што *«абмежаванне кантактаў на такім высокім узроўні нявыгаднае ні палітычна, ні эканамічна»*.

У размове з нашым карэспандэнтам намеснік міністра замежных справаў Уладзімір Герасімовіч заявіў, што *«заходнікі прыспешваюць падзеі»*, і наогул — *«адмовіць у візе афіцыйным асобам яны не маюць права»*. Што да знесенай беларускімі ўладамі амерыканскай агароджы ў Драздах, то адназначна яе беларускія ўлады пакуль не збіраюцца.

Між тым, амерыканцы настойваюць на гэтым. Афіцыйны прадстаўнік Дзяржэпартамента ЗША Джэймс Рубін ад імя ўрада сваёй краіны выступіў з заявай, выкладваючы пазіцыю Злучаных Штатаў.

### Заява Вашынгтона

Мы вельмі занепакоеныя паведамленнямі беларускіх сродкаў масавай інфармацыі аб заяве намесніка міністра замежных справаў Герасімовіча, у якой гучыць, што пазіцыя Злучаных Штатаў наконт Драздоў. Наша пазіцыя застаецца нязменнай. Урад Беларусі павінен узнавіць знесеную вакол нашай рэзідэнцыі агароджу, убраць сваіх прадстаўнікоў з нашай маёмасці, дазволіць устанавіць там нашу ўласную ахову і адкрыць нам туды беспярэшкодны доступ. Тэрыторыя застаецца рэзідэнцыяй амерыканскага пасла ў Мінску, аб чым мы маем дзеючую арэндную дамову з беларускім урадам. Мы аспрэчваем сцвярджэнні беларускага ўрада аб тым, што рамонт камунікацыяў патрабуе адсялення жыхароў рэзідэнцыі.

Тое, якім чынам урад Беларусі абыходзіцца з гэтым пытаннем на працягу апошніх двух месяцаў, з'яўляецца яўным парушэннем Венскай канвенцыі аб дыпламатычных зносінах.

### У Польшчу і Літву ехаць можна

Ці будуць амерыканцы ўводзіць візавыя санкцыі — пакуль невядома. Чакалася, што да санкцыяў далучацца Польшча і Літва. Гэтыя краіны атрымалі з брусельскай штаб-кватэры Еўрасаюза спіс з прозвішчамі беларускіх чыноўнікаў. Аднак Варшава лічыць, што для Польшчы такі крок «немэтазгодны».

Літва таксама вырашыла не ўводзіць візавыя санкцыі ў дачыненні да беларускіх чыноўнікаў. Пра гэта заявіў дырэктар палітычнага дэпартамента літоўскага МЗС Вігаўдас Усацкас. Як вынікае з ягоных словаў, Літва не хоча абвастраць адносіны з Мінскам, паколькі зацікаўленая ў як мага хутчэйшым вырашэнні некаторых пытанняў — дэмаркацыі беларуска-літоўскай мяжы, умацаванні пагранічнай інфраструктуры і развіцці гандлю. Праблемы, звязаныя з рэзідэнцыяй літоўскага амбасадара ў Мінску, даручана вырашыць часовому паверанаму ў справах Літвы Дайнюсу Трынкунасу. У адрозненне ад краінаў Еўрасаюза, Літва адклікала свайго пасла Вiктараса Баўбліса не «для кансультацыяў», а «на адпачынак», тэрмін якога, аднак, не вызначаны.

### Пазіцыя Мінска

Міністэрства замежных справаў распаўсюдзіла ў пятніцу, 10 ліпеня, афіцыйную заяву, у якой сцвярджаецца, што атмасфера вакол Драздоў *«нагнятаецца штучна»*. Беларускі бок лічыць, што Захад выкарыстоўвае *«адносна прыватную праблему як падставу для беспрэцэдэнтна шырокамаштабнага палітычнага ціску на суверэнную Беларусь»*. Аднак, *«Рэспубліка Беларусь і ў далейшым мае намер кіравацца сваімі законамі і нарматыўнымі актамі»*.

Атрымліваецца, што афіцыйны Мінск не збіраецца выконваць Венскую канвенцыю аб дыпламатычных зносінах? Хутчэй за ўсё так яно і ёсць. Пра гэта недвухсэнсоўна сказана ў апошнім абзацы заявы: *«МЗС упаўнаважаны заявіць, што ўзаемапрымальнае рашэнне дадзенай праблемы можа быць знойдзена толькі на аснове раўнапраўнага дыялогу і безумоўнай павагі суверэннага права Рэспублікі Беларусь прымаць рашэнні ў адпаведнасці са сваім нацыянальным заканадаўствам і дзяржаўнымі інтарэсамі»*.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**
**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**




*Што гэта значыць — чытайце на стар. 2*

## Самадурства ці палітычны разлік?

*«Чаму Лукашэнка пасварыўся з пасламі?»* — гэтым пытаннем задаюцца сёння тысячы грамадзянаў Беларусі. Сапраўды: чаму? Вось што думаюць вядомыя ў беларускім грамадстве людзі.

Былы старшыня Вярхоўнага Савета **Станіслаў Шушкевіч** перш за ўсё звяртае ўвагу на своеасаблівыя якасці характару беларускага прэзідэнта. *«Толькі дурнота і неадукаванасць могуць прывесці да падобных учынкаў»*, — лічыць Станіслаў Шушкевіч. Ён таксама адзначае істотную ролю атачэння, якое, замест таго, каб быць тормазам у дрэнных справах, стварае ўмовы ўседазволенасці.

Намеснік старшыні БНФ **Вінцук Вячорка** не адвяргае фактар асабістасцяў характару, але галоўную ролю ў апошніх учынках Лукашэнкі адводзіць палітычным момантам: *«Ён яўна вырашыў, што лепш пайсці на разрыў адносінаў з Захадам цяпер, чым праз год, калі натуральна скончыцца ягоная легітымнасць. Лукашэнка свядома фарсіруе сваю ізаляцыю»*, — лічыць Вячорка.

Вядомы кінарэжысёр **Юрый Хашчавацкі** бачыць цэлы комплекс прычынаў. Сярод іншых — Іван Ціцянкоў, які паклаў вока на «драздоўскую маёмасць». Таксама рэжысёр выказвае версію ўцягвання Беларусі ў «чорны» гандаль зброяй. *«Камусьці ў Расіі спатрэбіўся такі пасярэднік, як Беларусь, праз якога можна выгадна збываць зброю. Гэта як у злодзеяў: спачатку цябе ўцягнуць у злачынства, а потым ты будзеш рабіць усё, што трэба, добраахвотна»*.

Лідэр Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі **Мікола Статкевіч** ацэньвае драздоўскі канфлікт як наступства чарговай спробы Лукашэнкі ўзысці на расійскі прастол. *«Гэта не экспромт, а пралічаныя крокі: Рыгоравіч хоча паказаць электарату былога Саюза, што ён самы круты і свой у дошку»*.

Прыкладна так мяркуе і дэпутат Вярхоўнага Савета **Уладзімір Нісцюк**. На ягоную думку, Лукашэнка абвесціў тэрыторыю Драздоў сваёй рэзідэнцыяй у сімвалічных мэтах: маўляў, у хаце адзін гаспадар, а хто супраць, той хай з'язджае. *«Апошнія падзеі ў Расіі даюць Лукашэнку новы шанец стаць лідэрам усіх левых сілаў, вось ён і дэманструе сваю заяўку на гэтае лідэрства»*, — адзначыў Нісцюк.

Між тым, лідэр АГП **Станіслаў Багданкевіч** ніякіх далёкіх палітычных мэтаў у апошніх дзеяннях Лукашэнкі не бачыць. *«Лукашэнка проста чалавек без тармазоў, да таго ж з вельмі хваравітым самалюбствам. Адсюль усе ягоныя і, на жаль, нашыя беды»*, — сказаў Багданкевіч.

*Запісаў*
**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Бацькі, рыхтуйце грошы на падручнікі!

*Хочаш — напракат, хочаш — назусім*

270 тысяч рублёў будзе каштаваць у наступным навучальным годзе карыстанне падручнікамі для адзінаццацікласнікаў. Бацькам пяцікласнікаў трэба будзе выкласці 164 тысячы, а для самых маленькіх, «падрыхтовачнікаў», спатрэбіцца 131 тысяча рублёў за камплект падручнікаў.

Гэта вызначаныя міністэрствам кошты за «арэнду» кніжак на працягу года. А ўвогуле самі падручнікі каштуюць у 4 разы даражэй. Прычым сёлета ўпершыню іх можна будзе выкупіць ва ўласнасць і не вяртаць пасля ў бібліятэку. Поўны камплект каштуе ад 624 тыс. да 1 млн. 80 тыс. рублёў.

Але ў любым выпадку **бацькі павінны заплаціць грошы да 1 верасня** (а не да 1 кастрычніка, як было ў мінулым годзе) і прадставіць адпаведныя квітанцыі. Акрамя таго, калі вучань не здаў якую-небудзь кнігу за мінулы год, новыя падручнікі яму не выдадуць.

**Іван ЗАСАДА**

## Гомельская асамблея

**Прадстаўнікі грамадскіх арганізацыяў і грамадскіх ініцыятываў з усёй Гомельскай вобласці з'ехаліся 12 ліпеня ў абласны цэнтр, каб абвясціць пра стварэнне рэгіянальнай Асамблеі няўрадавых арганізацыяў.**

У Асамблею ўвайшлі 55 арганізацыяў, якія выказалі гатоўнасць скіраваць свае намаганні на падтрымку дзяржаўнай незалежнасці Беларусі, спрыянне дэмакратычным пераўтварэнням і рынкавым рэформам, абарону правоў чалавека і адраджэнне беларускай нацыянальнай культуры. У рабочую групу Асамблеі ўвайшлі В.Карніенка і У.Кацора («Грамадзянскія ініцыятывы»), Уладзімір Старчанка (БНФ «Адраджэнне»), Яўген Мурашка (Саюз беспрацоўных) і Яўген Касцюшка (Маладзёвы цэнтр «Яравіт»).

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Жанчыну з голубам заменяць на салдата

**У Лідзе будзе пастаўлены помнік землякам, якія загінулі ў савецка-афганскай вайне. Іх было 9 чалавек.**

Макет помніка ўжо распрацаваны. Гэта — стандартная фігура салдата з аўтаматам. Паставіць яго планавалі да 10-ых угодкаў вываду савецкіх войскаў з Афганістана. Аднак паколькі статуя, вышыня якой 2 метры 30 сантыметраў, павінна быць адліта з бронзы, то сабраць патрэбную суму на пакупку помніка аказалася цяжка.

Гарадскія ўлады выдзелілі месца для помніка ў цэнтры горада — адразу за стэлай у форме сцяга, прысвечанай «воінам-вызваліцелям і партызанам». Салдат з аўтаматам заменіць гіпсавую жанчыну з голубам, якая знаходзіцца якраз на тым месцы.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Смерць ад наркотыкаў

**Два чалавекі памёрлі ў Магілёве ў гэтым годзе ад злоўжывання наркотыкамі.**

Пра гэта паведамілі спецыялісты абласнога наркалагічнага дыспансера. Наркаманія стала за апошнія гады злавеснай рэальнасцю Магілёўскай вобласці. Больш за 90% усіх зарэгістраваных наркаманаў — маладыя людзі да 30 гадоў.

Тым часам у Брэсцкай вобласці з пачатку года наркаманы ўчынілі 42 злачынствы. У Пінскім раёне ў чэрвені выяўлена дзевяць наркаманаў, заражаных вірусам СНІДу.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Трое ў смаляной магіле

**У мінулую сераду ў Магілёве адбылася жахлівая трагедыя: адзін за адным патанулі ў гарачым бітуме трое чалавек. Нам сталі вядомыя падрабязнасці гэтага страшнага здарэння.**

На базе прадпрыемства «Дорсервіс» знаходзіцца 500-тонны рэзервуар, дзе разаграюць бітум; над ім усталяваны драўляны насціл, які нахіляецца над рэзервуарам пад вуглом у 30 градусаў. Падчас разгрузкі чыгуначнага састава з бітумам паслізнуўся і зляцеў з гэтага насцілу ў расплаўленую смалу 60-гадовы рабочы Пётр Мацкоў. Яго кінуўся ратаваць 39-гадовы механік Аляксандр Піліпенка: ён спрабаваў дастаць калегу пры дапамозе лябёдкі, але і сам зваліўся ў бітум. Гэты ж лёс напаткаў і наступнага выратавальніка, 42-гадовага электрыка базы Андрэя Багрова.

Апошнім кінуўся на дапамогу аглядчык вагонаў Аляксей Куксянкоў, які прыбег да рэзервуара, пачуўшы роспачныя крыкі людзей, але і ён не здолеў утрымацца на схіленым насціле. Аднак яму пашанцавала: ён адзіны застаўся жывы. Да трох першых дапамога не паспела. У час здарэння тэлефон на базе «Дорсервіс» не працаваў, і выклікаць ратаўнікоў давялося з суседняй чыгуначнай станцыі. І хоць брыгада прыехала даволі хутка, на паверхні тады трымаўся ўжо толькі Куксянкоў. Ён, дарэчы, нават не атрымаў моцных апёкаў і праз некаторы час самастойна пайшоў дадому.

Целы трох загінуўшых змаглі дастаць з застылай бітумнай масы толькі ў канцы наступнага дня.

Пакуль яшчэ рана даваць ацэнку прычынаў гэтай трагедыі. Спецыялісты вывучаюць тэхнічныя дэталі, а сведкі яшчэ не адышлі ад шоку. Адзінае, у чым ніхто не сумняваецца, — была парушаная тэхніка бяспекі.

Як паведаміла нам старшыня прафкама «Дорсервіса» М.Сталярова, у адпаведнасці з працоўнай дамовай сем'і загінуўшых атрымаюць грашовую кампенсацыю — 15 мінімальных заробкаў, на сёння гэта 3 млн. 750 тыс. рублёў. Акрамя таго, прадпрыемства ўзяло на сябе расходы па арганізацыі пахавання.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

*КАНФЛІКТ*

## Музычны фестываль сарваўся

**Запланаваны на 11 ліпеня фестываль цяжкай рок-музыкі *Extremum-98* не адбыўся па прычынах яўна не музычных.**

Тыя, хто прыйшоў у мінулую суботу да танцпляцоўкі ў парку Чалюскінцаў у Мінску, дзе планаваўся *Extremum-98*, змаглі ўбачыць толькі натоўпы расчараванай моладзі ўперамешку з міліцыяй, ды паназіраць за танцамі «тых, каму за 40» пад гукі расійскай «папсы». Фестываль арганізоўваўся музычным часопісам *Legion* пры падтрымцы дзяржаўнага камітэта па справах моладзі. Мінулагодні *Extremum-97* прайшоў паспяхова, ніякіх нараканняў з боку ўладаў не выклікаў, так што перашкодаў з гэтага боку не чакалася. На фестываль былі запрошаныя беларускія, польскія і расійскія гурты; было папярэдне прададзена каля 1.500 квіткоў, а ўсяго чакалася больш за 4.000 слухачоў.

Аднак за тры дні да фэсту дзяржаўны камітэт па справах рэлігіяў(!), спасылаючыся на заключэнне «экспертнага савета» за подпісамі Круглова і Савіцкага, рэкамендаваў дзяржкамітэту па справах моладзі адмовіцца ад гэтага мерапрыемства. «Эксперты» пішуць, што большасць гуртоў, якія павінны выступаць на фэсце, маюць нібыта «демонический характер», ім прыпісваецца *«пропаганда насилия и жестокости»*, а таксама чамусьці *«призывы к самоубийству»*. Аўтары заключэння таксама сцвярджаюць, што фестываль мае *«антихристианскую и антиобщественную направленность»*.

У лісце таксама была пагроза *«разабрацца на вышэйшым узроўні»* ў выпадку, калі фестываль адбудзецца. Натуральна, што «міністэрства моладзі» дало задні ход. У выніку арганізатары панеслі немалыя фінансавыя страты, а ў моладзі, чыю мараль аберагаюць такім чынам, павагі да ўладаў не прыбавілася.

Увогуле ж, тэкст заключэння вытрыманы ў стылі савецкіх часоў, калі парторгі хапаліся за сэрца пры адных словах *metal rock*. Тады яны сачылі за захапленнем «камуністычнай маралі» і забаранялі насіць крыжыкі з распятым Ісусам, цяпер — бароняць хрысціянскую мараль савецкімі ж метадамі, не спыняючыся перад паклёпамі. Наступным крокам такіх «экспертаў», відаць, будзе забарона гётэўскага «Фаўста» ды булгакаўскага «Майстра і Маргарыты» (за іх «дэманічны характар»), а таксама адмена вайсковай формы (бо кожны беларускі вайсковец мае на форменных гузіках «сатанінскі знак» — пяціканцовую зорку, абведзеную кругам).

Будзем спадзявацца, што да кастроў інквізіцыі справа не дойдзе.

**Алесь САДОЎСКІ**
**Вінцэсь ЛІПСКІ**

## Даже мертвые платят

**Константин СКУРАТОВИЧ**



Известно, что белорусы, как и все другие люди, смертны. Но, как и все другие, умирать они не торопятся. Иногда это все же происходит, например, от несчастного случая на производстве. В данной ситуации, как впрочем и везде в мире, семьи получают денежные компенсации по случаю утраты кормильца. А вот после этого начинается уже сугубо белорусская специфика. Наше государство считает эти деньги чистым доходом и, как всякий доход, облагает его налогом: разорись, де мол, вдова, на подарки!

Но даже если упавший на голову кирпич не убьет, а только покалечит, то, вернувшись в сознание, наш гражданин увидит два документа: свидетельство об инвалидности и повестку из налоговой инспекции с требованием заплатить налог за утраченное здоровье. Вообще скопидомство нашего государства границ не знает. Например, если вам пришлют деньги на лекарства родственники из другой страны, то по выходе из больницы вас также будет ждать повестка от налоговиков. Но при этом, если вам не удастся доказать, что вы длительное время были нееспособны (без сознания), то придется еще заплатить штраф за сокрытие доходов и штрафную пеню. Так что прежде чем вызывать скорую, пишите завещание, заполняйте декларацию и спешите в налоговую. Там чуткие люди. Они примут вас без очереди.

## «Ананімныя алкаголікі» збіраюцца ў касцёле

**У гродзенскім Брыгіцкім касцёле пачалі збірацца ўдзельнікі арганізацыі ананімных алкаголікаў (АА). У ёй аб'ядналіся людзі, якія здолелі вызваліцца ад алкагольнай залежнасці.**

Гэты рух шырока распаўсюджаны ў свеце, у нас пачаў развівацца толькі ў гады незалежнасці. Нярэдка такія людзі групуюцца вакол храмаў розных канфесіяў, бо святары таксама стараюцца дапамагчы. Каталіцкі касцёл, напрыклад, лічыць алкагалізм не толькі хваробай цела, але і — душы, грэхам супраць Бога. Ксяндзы гавораць, што гіпнозам і лекамі пазбыцца алкагалізму амаль немагчыма. Трэба, каб чалавек усвядоміў свой грэх і вырашыў па-сапраўднаму адмовіцца ад згубнай звычкі. А найлепш у гэтым дапамогуць тыя, хто ўжо прайшоў гэты шлях.

Цікава, што ў дзень спатканння групы АА ў касцёле сапраўды збіраецца мноства людзей. Спачатку яны прысутнічаюць на імшы, пасля якой члены групы ананімных алкаголікаў дзеляцца сваім досведам пра тое, як і з якімі цяжкасцямі ім удалося адмовіцца ад гарэлкі.

**Адам ЗАНЕЎСКІ**

# Міліцыя ідзе ў народ

У мінулую суботу ў мінскім Алімпійскім спарткомплексе (тым самым, які раней называўся «Трудовые резервы» і аднойчы згарэў ледзь не дашчэнту) прайшла камбінаваная міліцэйская эстафета. Мерапрыемства шырока рэкламавалася на вуліцах Мінска.

У спаборніцтве бралі ўдзел каманды ўсіх раённых аддзелаў мінскай міліцыі, службы аховы метрапалітэна, пажарных, АМОНа, ДАІ, спецкамендатуры і інш. Эстафета складалася з 11 этапаў: ад звычайнага бегу і кідання гранаты да фігурнага кіравання службовай машынай. Самымі лепшымі аказаліся ахоўнікі метро і пажарнікі, а вось АМОНаўцы занялі толькі трэцяе месца.

Увогуле ж для гледачоў арганізатары прадугледзелі разнастайную праграму. Была выстава новай пажарнай тэхнікі, крыміналісты раскрывалі некаторыя прафесійныя сакрэты, а жадаючыя маглі нават здаць тэарэтычны экзамен па правілах дарожнага руху проста на месцы, не едучы ў ДАІ. Пасля заканчэння эстафеты адбыўся канцэрт.




*Каманда АМОНа хоць і перамагла СІЗО-1, але заняла толькі трэцяе месца.*

Арганізатары спаборніцтваў лічаць, што такія мерапрыемствы «папулярызуюць міліцэйскую прафесію» сярод грамадзянаў і дапамагаюць лепшаму паразуменню жыхароў Мінска і тых, чыя служба «и опасна, и трудна».

**Міхась КАРПОВІЧ**





*Падчас эстафеты палявыя кухні ўсіх частавалі бясплатнай грэцкай кашай з маслам. Тыя, каму такі абед не падабаўся, падсілкоўваліся ў звычайных гандлёвых кропках.*

*Украіна*

# Вярхоўная Рада з «головою»

**Вярхоўная Рада Украіны на мінулым тыдні нарэшце выбрала спікера парламента. Ім стаў адзін з лідэраў Сялянскай партыі, дэпутат ад фракцыі «Левы цэнтр» Аляксандр Ткачэнка. За яго кандыдатуру прагаласавалі 232 дэпутаты.**

Выбары спікера доўжыліся амаль два месяцы, было праведзена 20 галасаванняў, але ніхто з кандыдатаў не набіраў патрэбнай колькасці галасоў. Напрыклад, 10 разоў вылучаўся Аляксандр Мароз («Левы цэнтр»), дзевяць — Іван Плюшч (НДП), 7 разоў — камуніст Пётр Сіманенка... Аляксандр Ткачэнка вылучаўся другі раз, пры першым галасаванні ён атрымаў усяго 148 галасоў.

Украінскаму спікеру — 59 гадоў. У часы СССР Ткачэнка працаваў на кіруючых пасадах у партыйна-гаспадарчых структурах Украіны. У 1991 г. займаў пост міністра па пытаннях аграрнай палітыкі і выстаўляў сваю кандыдатуру на першых прэзідэнцкіх выбарах (1991), аднак зняў яе на карысць Леаніда Краўчука, захаваўшы пры гэтым пасаду віцэ-прэм'ера па сельскай гаспадарцы. Пазней А.Ткачэнка быў зняты з пасады і стаў на чале аграпрамысловай асацыяцыі «Зямля і людзі». Перад выбарамі ў парламент папярэдняга склікання пры актыўным удзеле Руха разгарэўся скандал, звязаны з тым, што гэтая асацыяцыя выкарыстоўвала крэдыты не па прызначэнні. Гэта не перашкодзіла Аляксандру Ткачэнку ўвайсці ў парламент і заняць крэсла першага віцэ-спікера, аднак скандал працягваўся і была ўзбуджаная крымінальная справа, закрытая ў 1996 г. На апошніх прэзідэнцкіх выбарах Ткачэнка рашуча падтрымаў Леаніда Кучму, а былы віцэ-спікерам, ніводнага разу прэзідэнта не крытыкаваў. Новы спікер — актыўны прыхільнік удзелу Украіны ў Парламенцкай асамблеі СНД. А.Ткачэнка выступае супраць прыватнай уласнасці на зямлю.

Першым віцэ-спікерам украінскага парламента абраны дэпутат ад кампартыі Адам Мартынюк.

*Літва*

# З'езд усіх літоўцаў

На мінулым тыдні ў Вільні было вялікае свята — на працягу пяці дзён праходзіў Другі фестываль літоўскай песні. Аднак гэта быў не проста музычны фэст, арганізатары прыдалі мерапрыемству значна большы статус. Фактычна гэта быў з'езд літоўцаў свету: у Вільні сабраліся тысячы гасцей з усёй Літвы і сотні прадстаўнікоў літоўскай дыяспары.

*На здымку: спявае ансамбль, у якім бяруць удзел дзяўчаты з Каўнаса і Чыкага.*

# Супрацоўнікі КДБ могуць застацца без працы

Прэзідэнт Валдас Адамкус наклаў вета на законапраект, які абмяжоўвае права былых супрацоўнікаў КДБ на атрыманне працы. *«Я прыму канчатковае рашэнне пасля вердыкту Канстытуцыйнага суда»*, — сказаў прэзідэнт. Акрамя таго, паведамляе *ELTA*, ён мае намер *«правесці кансультацыі з прадстаўнікамі царквы, палітычных партыяў і праваабарончых арганізацыяў»*.

В.Адамкус падкрэсліў: ён падзяляе думку, што супрацоўнікі КДБ нясуць сваю долю віны за злачынствы камуністычнага рэжыму, а таму да іх могуць прымяняцца пэўныя абмежаванні. В.Адамкус згодны, што штатныя супрацоўнікі савецкіх спецслужбаў не павінны займаць пасаду ў дзяржаўных органах і установах Літвы, аднак прыватныя кампаніі маюць права самі вырашаць, каго ім браць на працу. Акрамя таго, пазаштатныя агенты КДБ не могуць несці непасрэднай адказнасці за палітычныя рэпрэсіі.

Законапраект прадугледжвае, што супрацоўнікі КДБ пазбаўляюцца права займаць пэўныя пасады тэрмінам на 10 гадоў з моманту ўвядзення закона ў дзеянне.



# Еўра пераплавяць

Дзевяць мільёнаў манет новай еўрапейскай валюты, выпушчаныя для запуску ў абарачэнне, пойдуць на пераплаўку. Прычына ў тым, што, як кажуць, дзесяці- і пяцідзесяціцэнтавыя манеты настолькі падобныя адна на адну, што іх цяжка адрозніваць. Міністры фінансаў краінаў Еўрапейскага Саюза прынялі рашэнне змяніць выгляд манет. Раней нешта падобнае адбылося і з папяровымі еўрапейскімі грашыма — быў перагледжаны дызайн некаторых банкнотаў.

# Самая дарагая кніга

За 7,5 мільёна долараў на аўкцыёне Крысці ў Лондане была прададзеная кніга Джэфры Чосера «Кантэрберыйскія Апавяданні». Уладальнікам кнігі, выдадзенай аж у 1477 годзе, стаў амерыканскі мільярдэр Джон Пол Джэцці Малодшы. Гэта самая дарагая кніга, якая была прададзеная з аўкцыёна. Да гэтага самай дарагой кнігай лічылася Біблія Гутэнберга, 1455 года выдання. У 1987 годзе на аўкцыёне ў Нью-Йорку гэтую кнігу купілі за 5 мільёнаў 300 тысяч долараў.

# Каб мяса было больш

У Японіі нарадзіліся цяляты-блізняткі, кланіраваныя па метадзе брытанскай авечкі Долі. Біёлагі універсітэта Кінкі з горада Канадзава лічаць, што гэтая тэхналогія адкрые шлях да вытворчасці буйной рагатай жывёлы з зададзенымі параметрамі.



*Падрыхтавалі* **Магдалена НЕПАКАЙ** *і* **Алена СУРКО** *па матэрыялах замежнай прэсы*

# Ім засталася спадчына...

Жыхары польскай вёскі Крашцевічы атрымалі нечаканую спадчыну. Іхняя зямлячка Марыяна Мілецiч пакінула ім пасля сваёй смерці цэлы мільён долараў. Гэтыя грошы яна зарабіла ў ЗША, куды эміграваля яшчэ да пачатку Другой сусветнай вайны. У сваім запавеце Мілецiч адпісала ўсе зберажэнні жыхарам роднай вёскі. На вясковай нарадзе было вырашана патраціць гэтыя грошы на будаўніцтва новай школы, бальніцы і плаціны на мясцовай рачулцы.

Аналагічная навіна прыйшла са Злучаных Штатаў. 50 тысяч долараў, накопленых за ўсё жыццё, Джэк Леманс, жыхар гарадка Джоплін у амерыканскім штаце Місуры, завяшчаў мясцоваму паштальёну. Такім чынам стары аддзячыў хлапчуку, які чатыры гады прыносіў яму пошту. Мясцовая газета «Джоплін Глоб», апісаўшы гэты выпадак, падкрэсліла сваю важную ролю ў ім — менавіта гэтую газету паштальён штодня ўручаў свайму будучаму дабрадзею.

# Клинтон берет курс на Москву

Не успел президент Билл Клинтон вернуться из китайского турне, как объявил о своем следующем визите в страну, которая также играет сегодня не последнюю роль в мире и с которой у США отношения на современном этапе также складываются не так, как хотелось бы американскому руководству. Речь, конечно, идет о России. На первый взгляд нет ничего особенного в намерениях Клинтона в начале сентября проводить в Москве своего «друга Бориса». Всем известно, что оба президента ввели в практику ежегодные встречи в верхах для согласования позиций по ключевым мировым проблемам и выработке дальнейших шагов по развитию двустороннего сотрудничества. Но дело в том, что уже более чем в течение года (после встречи в Хельсинки в марте 1997 года) Белый дом откладывал на более поздние сроки ответы на приглашение Ельцина посетить Россию.

Причина такого, на первый взгляд, неуважительного поведения главы администрации США прозаичны. Все дело в отношении российской Государственной думы к ратификации Договора СНВ-2. Этот документ, предусматривающий сокращение ядерных арсеналов России и Соединенных Штатов до трех с половиной тысяч боеголовок, был подписан сторонами пять лет назад и одобрен американским Сенатом в 1996 году. Российский же парламент, прикрываясь различными причинами, перманентно откладывает рассмотрение договора. Последний раз профильные комитеты решили вернуться к этому вопросу не раньше осени этого года после парламентских каникул. Российские законодатели как всегда сослались при этом на соображения безопасности своей страны и высокую стоимость процесса демонтажа ядерных вооружений.

В то же время в марте прошлого года, после последней встречи со своим российским коллегой, Билл Клинтон заявил: «Мы давно договорились с президентом Ельциным, что я нанесу ему следующий визит, но это произойдет лишь после того, как российская Дума ратифицирует Договор СНВ-2, чтобы мы смогли начать работу над Договором СНВ-3».

Слово не воробей, а лидеры таких стран, как США, не привыкли бросаться обещаниями. Но все же Вашингтон дает задний ход и соглашается провести очередной саммит в России. Причины для такого решения должны быть действительно серьезными.

Существует несколько версий перемены взглядов администрации США на подход к строительству своих взаимоотношений с РФ. Многие американские эксперты полагают, что Клинтон и его помощники пришли к заключению, что они не могут держать американо-российские отношения заложником одной-единственной проблемы.

Что же может быть для американцев важнее сокращения российских ядерных вооружений? Прежде всего — экономическая стабильность в самой России. Как известно, страна в настоящее время стоит на грани экономического кризиса, который может привести к хаосу и приходу к власти ортодоксов из лагеря коммунистов и националистов. В этом случае новые хозяева России не только не вспомнят об СНВ-2, но и похоронят все другие надежды США на уменьшение российского ядерного арсенала и вообще на возможность ведения с Россией цивилизованного диалога по вопросам безопасности. Кроме того, многие американские эксперты уверены, что россиянам, озабоченным внутренними экономическими проблемами, Договор СНВ-2 кажется совершенно незначительным по сравнению с необходимостью решения важнейших каждодневных задач, от которых зависит судьба их страны.

Еще один вопрос, который не терпит отлагательства и нуждается в личном участии двух президентов, — это выработка общего подхода к решению крупных международных проблем, в которых Москва играет ключевую роль, — противостояние на этнической почве в Косово и поставки российских ракетных комплексов на Кипр, уже вызвавшие серьезный кризис в регионе восточного Средиземноморья. Кроме того, сторонам не мешало бы найти точки соприкосновения по вопросам нераспространения оружия массового уничтожения, которые резко обострились после проведения Индией и Пакистаном ядерных испытаний.

Ко всему, президенту США необходимо решать свои внутренние проблемы, возникшие после того, как диалог американской администрации с руководством России зашел в тупик. Клинтона дома обвиняют с двух сторон. Либерально настроенные политики упрекают его в том, что он игнорирует стратегически важные отношения с Москвой, отдавая предпочтение, например, развитию диалога с Китаем, в котором не прекращается нарушение прав человека. Вместе с тем, консерваторы из лагеря республиканцев постоянно напоминают президенту о его заявлении насчет взаимной договоренности с Ельциным по поводу практически одновременной ратификации СНВ-2, когда он убеждал сенаторов одобрить этот договор два года назад.

В то же время американские эксперты в области международных отношений полагают, что Вашингтон все же окончательно не отказался от намерения убедить Госдуму РФ в необходимости ратификации СНВ-2. Многие из них предполагают, что на встрече в Москве Клинтон предупредит своего российского коллегу о том, что в случае отказа парламента России от рассмотрения Договора оппозиция в Конгрессе США может в ответ на это увеличить расходы на разработку систем противоракетной обороны.

Выходит, визит Билла Клинтона в Москву будет полезен не только для команды Бориса Ельцина, которая надеется на достижение с ним договоренности об американской поддержке в МВФ просьбы России о выделении ей крупного кредита (оценочно, для стабилизации экономической ситуации ей необходимо до 20 млрд. долларов). Вполне возможно, что президент США сможет в ходе своего пребывания в российской столице решить и некоторые свои проблемы.

Сегодня члены администрации Клинтона, объясняя его решение посетить Россию, утверждают, что президент никогда не заявлял того, что ратификация СНВ-2 является необходимым условием визита, а только давал понять, что это было бы весьма желательно. Представители Белого дома говорят, что вопрос о дальнейших сокращениях вооружений будет все равно поставлен на повестку дня этой осенью, даже если к тому времени договор ратифицирован не будет. Похоже, Билл Клинтон подготовил себе путь к отступлению. Неизвестно только, имеет ли подобный путь Борис Ельцин.

**Михаил СОКОЛОВСКИЙ**



# Галаданне выратуе краіну

**Новы прэзідэнт Інданезіі Хабібі вынайшаў арыгінальны спосаб пераадолець эканамічны крызіс, што пануе ў гэтай краіне. Ён заклікаў сваіх суайчыннікаў трымаць пост два разы на тыдзень — у панядзелак і чацвер.**

Амаль 90 працэнтаў насельніцтва 200-мільённай Інданезіі — мусульмане, і таму, на думку прэзідэнта Хабібі, прафілактычнае галаданне вернікаў дазволіць дасягнуць адразу некалькіх мэтаў. Па-першае, лічыць прэзідэнт, устрыманне ад ежы «падвысіць эфектыўнасць працы», бо замест таго, каб губляць час на ежу, вернікі будуць больш працаваць. Па-другое, краіна зэканоміць «мільёны тон рысу». А пра духоўнае ачышчэнне і казаць няма чаго.

Праўда, інданезійцы і без прэзідэнцкіх заклікаў абмяжоўваюць сябе ў ежы, бо ў выніку цяжкога эканамічнага крызісу 40 працэнтаў насельніцтва аказаліся за рысай беднасці. Іхні рацыён такі мізэрны, што скарачаць яго няма куды, нехай нават і два разы на тыдзень.

Думаецца, што кіраўніцтву Беларусі варта пераняць каштоўны вопыт азіяцкай краіны. Замежныя і ўнутраныя ворагі істотна падарвалі беларускую эканоміку і цяпер жыруюць на нашым эканамічным крызісе. Ім патураюць нашы несвядомыя грамадзяне, якія працягваюць спажываць вараную каўбасу і іншыя прадукты, стратныя для нашых прадпрыемстваў. Гэта толькі ўзмацняе крызіс. Таму, каб перажыць цяжкія часы, някепска было б і беларускім вернікам трымаць пост пару разоў на тыдзень.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Франция срывает банк!

**Такого общенационального восторга Франция не видала со времени освобождения от фашистской оккупации. Еще бы: французская сборная выиграла XVI чемпионат мира по футболу.**

Великие выдумщики эти французы! Один — Пьер де Кубертен — подарил человечеству Олимпийские игры современности, другой — Жюль Риме — оставил в наследство чемпионаты мира по футболу. Каждые два года эти события поочередно волнуют землян, заставляя их забывать о распрях, конфликтах и войнах и восхищаться искусством игры, скоростью движения, поражаться совершенству человеческой природы.

## Золотой петушок Зидан

В 15 предыдущих чемпионатах мира 8 раз первенствовали южноамериканцы (4 — Бразилия, по 2 — Уругвай и Аргентина) и 7 — европейцы (по 3 раза Италия и Германия, однажды Англия). Причем по неписаному закону латиноамериканцы побеждали у себя, в Новом Свете, европейцы — у себя, в Старом. Традиция была нарушена лишь однажды — в 1958 году, когда бразильцы в финале победили хозяев поля шведов — 5:2. Но, как известно, исключения лишь подчеркивают жизненную силу правил. Перед финальным матчем Франция — Бразилия это обстоятельство говорило в пользу хозяев чемпионата.

Исторические сентенции были опрокинуты воскресным вечером в Сен-Дени на стадионе «Стад де Франс». Хозяева чемпионата, поддерживаемые 80-тысячной армией болельщиков во главе с президентом Франции Жаком Шираком, с первых мгновений включили космические скорости и жесткий прессинг по всему полю. Четырехкратные чемпионы мира оказались к этому не готовы: их стартовое высокомерие вскоре сменилось растерянностью, преодолеть которую им так и не удалось. «Главный конструктор» французской команды Зинедин Зидан острыми пасами выводил на ударную позицию то Гиварка, то Джоркаеффа, но либо завершающие удары не получались, либо великолепно играл бразильский голкипер Таффарел. На 28-й минуте первого тайма после подачи углового Зидан исполнил роль золотого петушка (петух — национальный символ Франции) — его удар головой был неотразим. Перед уходом на перерыв он еще раз больно «клюнул» соперников — снова после подачи углового, снова в высоком прыжке головой — 2:0!

А вот лидер бразильцев Роналдо был начисто выключен из игры: французы зорко следили за тем, чтобы лучший футболист мира двух последних лет оставался «на голодном пайке». Сам Роналдо выглядел вялым, двигался непривычно мало, — возможно, из-за травмы, о которой было объявлено перед финалом.

Во второй половине игры хозяева поля «переключили свою машину» в оборонительно-контратакующий режим и даже после удаления Десайи уверенно контролировали ход поединка, на последней минуте которого Пети довел счет до неприличного — 3:0.

А потом новоявленные чемпионы умывались слезами радости и с Кубком мира в руках ис-



*Эммануэль Пети забил последний гол чемпионата мира.*

полняли танец победы. И как-то очень скромно в эти минуты выглядел автор триумфального сценария тренер Эме Жаке.

## Франция

До сих пор высшими достижениями французов были победа на *EURO'84* и третьи места на чемпионатах мира 1958 и 1986 годов. Пожалуй, команда середины 80-х выглядела привлекательнее нынешней. Легендарный квартет полузащитников — Платини, Жиресс, Тигана, Фернандес — переигрывал любых соперников, и только отсутствие форвардов соответствующего класса не позволило тогда французам добиться большего.

Состав-98 более ровный, дисциплинированный и психологически устойчивый. Все футболисты отлично подготовлены физически. Но если оборона была великолепно отлажена (в 7 матчах пропущено лишь 2 мяча), то в полузащите и атаке Эверестом возвышался над партнерами лишь Зидан — пожалуй, лучший разыгрывающий игрок мирового футбола. Нападающие явно уступали ему в уровне понимания игры и технике исполнения. Вот и факты: в 1/8 финала единственный гол в ворота Парагвая забил защитник Блан, в 1/4 французы в основное и дополнительное время так и не пробили итальянцев, в полуфинале с Хорватией дважды выручил хозяев другой защитник — Тюрам. Всего же из 15 забитых мячей на долю защитников приходится 4, нападающих — 5, полузащитников — 6. Цифры свидетельствуют об универсализме и взаимозаменяемости новых чемпионов мира.

Нацеленность на победу была столь высокой, что не помешали ни удаление и дисквалификация на 2 матча Зидана, ни травма Дюгарри, ни дополнительное время в матче с Парагваем, ни послематчевые пенальти в поединке с Италией, ни пропущенный от хорватов гол в полуфинале, когда французам впервые пришлось отыгрываться. Во всех без исключения играх сборная Франции демонстрировала атакующий футбол, превосходство над соперниками и вполне заслуженно стала седьмым в истории чемпионом мира.

## Бразилия

Большинство болельщиков и специалистов предсказывало победу бразильцев. Во-первых, потому, что у них есть Роналдо, которого справедливо определили в наследники Пеле. Во-вторых, кроме него, в их составе почти сплошь звезды первой величины: Ривалдо, Кафу, Бебето, Таффарел, Денилсон, Дунга, Леонардо, Сезар Сампайо, Роберто Карлос.

Не только наличие футбольного созвездия склоняло экспертов в сторону бразильцев. В 1982 и 1986 годах в их рядах блистали такие выдающиеся мастера, как Зико, Сократес, Фалькао, но в обоих случаях сборная не попадала в финал. Командам великолепного тренера Теле Сантаны мешали чрезмерное эстетство и нехватка здорового прагматизма. Нынешний наставник 66-летний Марио Загалло — соучастник всех побед сборной Бразилии: в 1958 и 1962 годах как футболист, в 1970 — как главный тренер, в 1994 — как технический директор. Казалось, Загалло удалось поставить команде игру, в которой талант лидеров органично вплетается в коллективные действия. Тот же Роналдо не только забил 4 мяча, но и стал лучшим пасующим — 4 результативные передачи.



*Лучшему футболисту-97 Роналдо французы не дали забить в финальном матче.*

Нельзя сказать, чтобы бразильцы царили на чемпионате. В 6 матчах до финала они четырежды выиграли, но по разу сделали ничью (1:1 с Голландией — пенальти не в счет) и проиграли (1:2 — Норвегии). Возможно, для господства им не хватало травмированного Ромарио, да еще классного диспетчера в середине поля, каковым у французов был Зидан.

В поединках с европейцами, сталкиваясь с быстрой жесткой игрой соперников, четырехкратные чемпионы мира терялись. Кроме поражения от норвежцев, они минимально победили Шотландию и Данию. Французский тренер Эме Жаке мудро подметил слабости бразильцев и прекрасно их использовал. Итог для бразильцев оказался плачевным.

## Хорватия

Дебютанты с первой попытки стали третьей командой мира — суперсенсация! А разгром, который они устроили чемпионам Европы (3:0), еще долго с дрожью будут вспоминать в Германии. Впрочем, у хорватов были свои счеты с немцами. Два года назад славян откровенно засудили в четвертьфинале *EURO'96*. Так что реванш стал возмездием судьбы.

Козыри сборной Хорватии — великолепный голкипер Дражен Ладич, диспетчер Алёша Асанович, лучший бомбардир чемпионата Давор Шукер (6 мячей) и чрезвычайно работоспособный полузащитник Марио Станич. Но главное, в чем они превзошли всех, — волевой настрой и полное неприятие авторитетов. Чем сильнее был соперник, тем упорнее играли хорваты. В этом безусловная заслуга и педагогическое мастерство их наставника Мирослава Блажевича.



*Герой французской сборной Зинедин Зидан и его коллеги Анри Десайи и Лоран Блан с Кубком мира.*

## Голландия

Голландцам, в отличие от остальных полуфиналистов, пришлось пройти через настоящее чистилище. Бельгия, Мексика, Югославия, Аргентина, наконец, Бразилия и Хорватия — таких соперников не пожелаешь и врагу. Матч Голландия — Бразилия (1:1) стал по общему признанию творческим итогом турнира. Половина забитых голландцами мячей — настоящие шедевры футбольного искусства.

Увы, сияние голландских звезд было мерцающим. В дебюте не шла игра у Клюйверта, после получил тяжелую травму Овермарс, в матче с бразильцами тускло выглядел лидер команды Берхкамп. Похоже, что тренеру Гусу Хиддинку не удавалось полностью контролировать ситуацию в команде. А жаль...

## Неудачники

Провал сборной Германии был запрограммирован тренером Берти Фогтсом задолго до начала чемпионата. Он, похоже, как и миллионы болельщиков во всем мире, находился под влиянием магии имен престарелых лидеров немецкой дружины. 16 из 22 футболистов, приехавших во Францию, старше 29 лет. Измотанные сражениями в национальном первенстве и еврокубковых баталиях, ветераны не сумели полностью восстановить свои ресурсы.

Фиаско родоначальников футбола англичан — тоже плод стратегических просчетов их наставника Гленна Ходдла. И если бы не 18-летний центрфорвард Майкл Оуэн — самая яркое открытие турнира, — о вылете англичан сожалели бы лишь по привычке.

Сборные Италии и Испании в разной степени стали заложниками легионерского засилья во внутренних чемпионатах. Ключевые роли в суперклубах этих стран играют бразильцы, аргентинцы, голландцы и гораздо реже — «родные» футболисты.

Нигерийцы снова, как и 4 года назад, показали себя талантливыми индивидуалами со слабо поставленной командной игрой. Их хватило только на стартовый матч с испанцами (3:2).

## В погоне за Европой

В целом чемпионат получился предсказуемым. В четвертьфинал вышли 6 европейских и 2 южноамериканские команды, причем те, кто и должен был туда попасть: кроме призеров, это еще Италия, Дания, Аргентина и Германия.

Из 5 африканских сборных в 1/8 финала пробилась только Нигерия, повторив свое достижение четырехлетней давности. Марокканцы выглядели очень здорово, но шлагбаум перед ними опустили норвежцы, неожиданно обыгравшие бразильцев. Камерун пал жертвой грубых судейских ошибок. Не остались без очков ЮАР и Тунис.

Азиатские дружины заработали небольшие дивиденды. Лишь иранцы улетели домой абсолютно счастливыми. Победив США — 2:1, они таким образом поквитались с мировым империализмом и подарили своему народу национальный праздник.

Заведомых слабаков на чемпионате не было. Футболисты всех без исключения команд продемонстрировали умение долго и быстро бегать, искусно обращаться с мячом. Однако в главном — в организации игры, в стратегии, тактике, психологии футбола — европейцы доказали, что они по-прежнему впереди планеты всей.

## Хорошо ли, когда много?

Впервые в финальную стадию чемпионата мира было допущено 32 команды (прежде было 24), что увеличило число матчей с 52 до 64. Сделано это с целью популяризации футбола в развивающихся странах. Но при нынешней системе розыгрыша это привело к тому, что заключительные матчи групповых турниров превратились в профанацию. Однако избранный президентом ФИФА 62-летний швейцарец Йозеф Блаттер уже заявил, что в 2002 году формула турнира останется без изменений.

Блаттер явно неудачно стартовал в новой роли. Его беспрецедентное вмешательство в дела судейского корпуса привело к тому, что судьи больше думали не о соблюдении правил игры, а об исполнении президентских указаний. Многочисленные ошибки арбитров исказили спортивные результаты.

На наш взгляд, оптимален вариант, при котором футбольные судьи были бы профессионалами и имели бы независимость от ФИФА.

## Париж ликует

Получив из рук президента Франции Ширака Кубок мира, чемпионы вскочили на президентский стол и, повернувшись к своему лидеру задом, принялись исполнять некий ритуальный танец победы. Ширак не растерялся и вместе с легендарным футболистом 80-х Мишелем Платини тоже вскочил на стол и присоединился к землякам.



*Главный автор триумфа — тренер Эме Жаке.*

Всю ночь Франция ликовала. В Париже на Елисейские поля высыпало полтора миллиона горожан, пивших, певших и плясавших под вой автомобильных сирен. Не обошлось и без драмы. Изрядно выпивший чудак въехал на машине прямо в несновавшуюся от счастья толпу. Ранения получили около 50 человек, причем 10 из них — серьезные.

Что тут скажешь?! Футбол — это великая игра, которая гораздо чаще дарит радость и объединяет людей. Очередной чемпионат мира состоится в Японии и Южной Корее уже в следующем тысячелетии.

**Борис ТАСМАН**

# Даты і лёсы

*14 ліпеня*

**1867.** Шведскі хімік Альфрэд Нобель наладзіў першую дэманстрацыю свайго вынаходніцтва — дынаміту. Менавіта грошы ад «дынамітнага» патэнта далі магчымасць пасля заснаваць фонд, з якога выплачваюцца Нобелеўскія прэміі.

**1903.** Нарадзіўся вядомы амерыканскі пісьменнік Ірвінг Стоўн (Таненбаўм), аўтар біяграфічных раманаў пра жыццё Ван Гога, Мікеланджэла, Джэка Лондана ды іншых творцаў з цяжкім лёсам.

**1918.** Нарадзіўся выбітны шведскі кінарэжысёр Інгмар Бергман.

**1925.** ЦК КП(б)Б запатрабаваў ад эміграцкага ўрада БНР, які ў той час знаходзіўся ў Празе, перадачы ягоных паўнамоцтваў ураду БССР і прызнання Мінска сталіцай усіх беларусаў. У кастрычніку частка лідэраў беларускай эміграцыі пагадзілася на гэтыя ўмовы і атрымала дазвол вярнуцца на Бацькаўшчыну.

**1956.** У СССР была скасаваная плата за навучанне ў старэйшых класах школы, тэхнікумах, вучэльнях і ВНУ.

**1958.** Кароль Ірака Фейсал быў забіты падчас дзяржаўнага перавароту. Нацыянальнае свята Ірака.

**1993.** Актывісты пратэстанцкіх канфесіяў адзначылі 440-годдзе пратэстанцтва на Беларусі.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1212 Нумар падпісаны ў друк 13.07.98 (15:00) Наклад — 19.730